# Права

## РАЗВІЦЦЁ ПРАВАВОЙ НАВУКІ Ў БДУ

Вытокі беларускай юрыдычнай навукі знаходзяцца ў далёкай старажытнасці. У XVI ст. шэраг знакамітых юрыстаў (Францыск Скарына, Міхалон Літвін, Сымон Будны, Андрэй Волан, Мікалай Радзівіл Чорны, Астафій Валовіч, Леў Сапега і інш.) даследавалі праблемы дзяржавы і права, выносілі прапановы па іх удасканаленню. Сапраўднай рэвалюцыяй у праватворчасці была падрыхтоўка нашымі землякамі і выданне ў Вялікім Княстве Літоўскім статутаў 1529, 1566, 1588 гг. – першых у Еўропе такога ўзроўню зводаў законаў, заснаваных на мясцовым звычаёвым праве, традыцыях народа і напісаных на старажытнай беларускай мове. Менавіта гэта мела важнае значэнне, бо на той час большасць еўрапейскіх дзяржаў карысталася рымскім правам і лацінскай мовай.

Узнаўленне беларускай юрыдычнай навукі пасля стварэння БССР непасрэдна звязана з адкрыццём у 1921 г. Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У сувязі з утварэннем БДУ Наркамат адукацыі РСФСР накіраваў у БССР групу вучоных. Значны ўклад у развіццё прававой навукі ў гэты перыяд унёс першы рэктар БДУ У.І. Пічэта, які кіраваў даследаваннямі і распрацоўваў шматлікія праблемы гісторыі Беларусі. Першымі выкладчыкамі на прававым аддзяленні факультэта грамадскіх навук былі Г.С. Гурвіч (савецкае дзяржаўнае права), У.М. Дурдзянеўскі (дзяржаўнае права буржуазных краін), М.Б. Кроль (судовая псіхіятрыя), І.Т. Цітоў (судовая медыцына), М.О. Грэдзінгер (грамадзянскае права і працэс), Б.В. Чрэдзін (рымскае права) і інш.

У 1925 г. на факультэце працавалі ўжо 12 прафесараў: У.І. Пічэта, С.Я. Вольфсан, А.В. Гарбуноў, М.О. Грэдзінгер, У.М. Дурдзянеўскі, Я.В. Доўнар-Запольскі, С.Я. Кацэнбоген, Н.Н. Краўчанка, М.А. Прыляжаеў, У.М. Перцаў, В.Н. Шыраеў, Б.В. Чрэдзін, а таксама дацэнты і асістэнты: А.М. Арцымовіч, Ф.І. Гаўзе, М.А. Канаплін і інш. Усе яны былі яркія, неардынарныя асобы, буйныя вучоныя. І ў гэтым жа годзе 26 жніўня прымаецца пастанова Саўнаркома БССР аб стварэнні ў БДУ факультэта права і гаспадаркі. 10 кастрычніка 1925 г. праходзіць першае пасяджэнне дэканата новага факультэта. Дэканам прызначаецца прафесар С.Я. Вольфсан.

Пачынаецца актыўная вучэбная і навуковая работа. Адзін з першых даследчыкаў гісторыі нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў Беларусі Р.Я. Парэчын выдаў кнігу «Наша Канстытуцыя» (1928), прысвечаную аналізу Асноўнага закона БССР 1927 г. Праца М.М. Гуткоўскага «Сістэматычны паказчык (спроба сістэматыкі) заканадаўства Беларускай ССР за 1919–1928 гг.» (1929) з'яўлялася прыкладам цеснай сувязі навукі і практыкі. Адметнай з'явай у сферы юрыдычных даследаванняў Інбелкульта з'явіліся «Запіскі аддзела гуманітарных навук. Працы кафедры сучаснага права» – збор артыкулаў па розных галінах юрыдычнай навукі: дзяржаўнага, адміністрацыйнага, крымінальнага, грамадзянскага, зямельнага права, судаводства, гісторыі і тэорыі дзяржавы і права, якія выйшлі ў 1929 г. (М.О. Грэдзінгер, Р.Я. Парэчын, М.А. Канаплін, В.М. Шыраеў, С. Слупскі, Ф.І. Гаўзе, М.М. Гуткоўкі, Е.А. Вішнеўскі, Н.А. Бонч-Асмалоўскі). Друкаваліся асобныя кнігі, прысвечаныя грамадзянскаму і грамадзянска-працэсуальнаму праву, крымінальнаму і крымінальна-працэсуальнаму праву, шлюбнасямейнаму праву і інш. Так, М.О. Грэдзінгер апублікаваў падручнік па грамадзянскаму працэсу БССР, В.М. Шыраеў прысвяціў свае працы дзейнасці следчых органаў, органаў суда і пракуратуры, У.М. Дурдзянеўскі, М.А. Канаплін, Л.А. Рудзіцкі, П.М. Галанза – савецкаму дзяржаўнаму праву.

Цяжкія страты панесла прававая навука Беларусі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны. У сувязі з гэтым у першыя пасляваенныя гады з-за адсутнасці навуковых кадраў даследаванні па прававых праблемах амаль не праводзіліся. Як і іншыя ВНУ, БДУ адчуваў востры недахоп у выкладчыцкіх кадрах, таму па просьбе кіраўніцтва рэспублікі з РСФСР у БССР на пастаянную навукова-педагагіч-

ную работу былі напраўлены вучоныя-юрысты дацэнты: І.С. Андрэйчык, Ф.І. Гаўзе, М.Ц. Баран, В.С. Шчаглоў, В.П. Юдзін.

У другой палове 1950-х і ў 1960-я гг. у СССР пачаўся працэс пашырэння правоў саюзных рэспублік, у тым ліку і ў галіне заканатворчасці, што садзейнічала актывізацыі навуковых юрыдычных даследаванняў. Распрацоўка і прыняцце новых законаў (у тым ліку і кодэксаў) патрабавалі актыўнага ўдзелу ў заканатворчым працэссе прадстаўнікоў юрыдычнай навукі. У БДУ актывізуюцца даследаванні па ўсіх накірунках права: тэорыі і гісторыі дзяржавы і права (В.А. Дарогін, Б.Е. Бабіцкі, А.С. Фарфель, Э.А. Калініна, В.П. Сярэбранікаў, І.А. Юхо), канстытуцыйным і адміністрацыйным праве (А.А. Галаўко, А.Т. Лейзераў, Р.А. Васілевіч, Л.А. Прыходзька, А.М. Крамнік), цывілістыцы (Ф.І. Гаўзэ, В.Ф. Чыгір, А.М. Рамановіч, В.В. Левы), аграрным праве (М.В. Сторажаў), грамадзянскім працэсуальным праве (С.В. Курылёў, В.В. Ціхановіч, В.Г. Ціхіня, М.Р. Юркевіч), працоўным праве і праве сацыяльнага забеспячэння (В.П. Дуюн, О.С. Курылёва, Х.Т. Мялешка), крымінальна-працэсуальным праве, судаўладкаванні і пракурорскім наглядзе (Е.А. Мацвіенка, В.Н. Шпілеў, С.П. Бякешка, І.І. Марціновіч), крымінальным праве і крыміналістыцы (І.І. Гарэлік, І.С. Цішкевіч, В.А. Шкурко, М.Н. Меркушаў, Е.Н. Кічыгіна, Н.І. Гапановіч, І.А. Матусевіч, А.В. Дулаў).

Новы этап развіцця ўніверсітэцкай юрыдычнай навукі быў звязаны з карэннай рэарганізацыяй усяго грамадска-палітычнага ладу і абвяшчэннем Дэкларацыі аб суверэнітэце БССР 1990 г. У Рэспубліцы Беларусь пачаўся працэс дэмакратызацыі грамадства і фарміравання якасна новай прававой сістэмы, у якім прынялі актыўны ўдзел вучоныя юрыдычнага факультэта. Публікацыі навукоўцаў юрыдычнага факультэта апошніх гадоў (манаграфіі, падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, навуковыя артыкулы і інш.) адлюстроўваюць новыя тэндэнцыі ў прававой навуцы. У публікацыях вучоных-тэарэтыкаў (А.М. Абрамовіча, С.Р. Драбязкі, А.Г. Цікавенкі, С.А. Калініна, І.Л. Вяршок, Дз.А. Лагуна і інш.) надаецца ўвага тэарэтычным падставам удасканалення дзяржаўнага апарату і права, шляхоў пабудовы дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавы ў Рэспубліцы Беларусь. Гісторыкі права (Т.І. Доўнар, У.М. Сатолін, Л.Л. Голубева) працягваюць даследаваць дзяржаўнасць і права Беларусі дарэвалюцыйнага перыяду, прысвячаюць свае працы выяўленню гістарычных асаблівасцей і пераемнасці дзяржаўна-прававога будаўніцтва, прымаюць актыўны ўдзел у перавыданні старажытных нарматыўных актаў.

На кафедры канстытуцыйнага права праводзяцца даследаванні новага канстытуцыйнага, адміністрацыйнага права, сістэмы дзяржаўнай улады, узаемаадносін дзяржавы і чалавека, сістэмы мясцовага самакіравання, прававога статусу грамадзяніна і чалавека. Выдадзены шэраг кніг Р.А. Васілевіча, І.І. Пляхімовіча, Т.С. Маслоўскай, Л.А. Прыходзька, Н.М. Кандратовіч, А.М. Крамніка, В.І. Чупрыс і інш.

Важным накірункам юрыдычнай навукі Беларусі сталі даследаванні і кнігі ў галіне аховы навакольнага асяроддзя (С.А. Балашэнка, А.У. Лаеўская, Т.І. Макарава, Н.А. Шынгель, В.Я. Лізгара).

У 2004 г. на юрыдычным факультэце БДУ створана кафедра фінансавага права і прававога рэгулявання гаспадарчай дзейнасці, выкладчыкі якой актыўна ўключыліся ў навуковыя даследаванні па адпаведных кафедры галінах права. Выдаюць манаграфіі, навучальныя дапаможнікі і вучэбна-метадычныя комплексы члены кафедры: В.С. Камянкоў, Т.С. Бойка, С.К. Лешчанка, Ю.П. Доўнар, А.А. Піліпенка, Я.І. Функ, В.К. Сідарчук.

Аб’ектам увагі навукоўцаў-цывілістаў сталі праблемы абавязацельнага, жыллёвага права, грамадзянска-прававога забеспячэння правоў і інтарэсаў грамадзян і іншыя пытанні. Былі выдадзены асабістыя і калектыўныя працы В.Ф. Чыгіра, У.А. Раманенкі, В.М. Гадунова, а таксама А.А. Салей, М.В. Мяшчанавай, І.П. Траццяковай, І.М. Шчамялёвай і інш.

У публікацыях О.С. Курылёвай, А.А. Войціка, Х.Т. Мялешкі, Т.А. Паставалавай, Т.М. Петачэнкі, К.Л. Тамашэўскага разглядаліся шматлікія пытанні працоўнага права і права сацыяльнага забеспячэння. Даследавалі і працягваюць даследаваць самыя актуальныя праблемы грамадзянскага працэсуальнага права М.Р. Юркевіч, Т.А. Бялова, І.М. Калядка, І.М. Казей, У.П. Скобелеў і інш. Склалася беларуская школа грамадзянскага працэсуальнага і працоўнага права. Актыўна працуюць маладыя вучоныя кафедры.

Цесна звязаны з жыццём даследаванні па крымінальна-прававой тэматыцы. Навукоўцы, якія займаюцца пытаннямі крымінальнага права, аказваюць дапамогу праваахоўчым органам у юрыдычнай кваліфікацыі супрацьпраўных дзеянняў. Пра гэта сведчаць выдадзеныя працы А.У. Баркова, У.М. Хоміча, І.А. Грунтова, М.А. Бабія, В.В. Марчука, К.В. Новікавай, А.В. Шыдлоўскага, Ю.Л. Шаўцова і інш.

Значную дапамогу практыцы аказваюць працы вучоных-працэсуалістаў і крыміналістаў: В.М. Бібіла, І.І. Марціновіч, А.А. Данілевіча, Л.Л. Зайцавай, А.В. Дулава, Р.А. Шумака, да якіх пазней далучыліся маладыя даследчыкі: А.М. Хлус, А.К. Тарасава, В.І. Самарын, В.В. Пятрова, В.В. Шпак.

Аб актывізацыі навуковых даследаванняў на юрыдычным факультэце сведчаць шматлікія калектыўныя працы навукоўцаў: «Концепция Конституции БССР и формирование правовых основ гражданского общества и государства» (1991), «Теоретические проблемы формирования и функционирования гражданского общества и государства» (1995), «Проблемы совершенствования правовых средств и

механизмов противодействия преступности в современном обществе» (2007), «Современные тенденции и кодификация законодательства (10 лет ГПК, ХПК, ТК Республики Беларусь)» (2009), «Правотворчество и правоприменение в современном обществе» (2009), «Право и демократия» (1988–2011) і інш.

Істотным дасягненнем навукоўцаў факультэта стала выданне спецыяльных кніг (юрыдычных энцыклапедый, слоўнікаў, даведнікаў і інш.), адрасаваных практычным работнікам і шырокаму колу чытачоў. На факультэце падрыхтавана і выдаецца Беларуская юрыдычная энцыклапедыя ў 4 тамах (ужо выдадзены тры тамы). Да 85-годдзя юрыдычнага факультэта БДУ (2010) падрыхтаваны і перавыдадзены ўнікальны помнік права XVI ст. – Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. У гэтым выданні акрамя арыгінальнага рукапіснага тэксту чытачу прапаноўваецца транскрыпцыя тэксту з выкарыстаннем сучаснага шрыфту.

У сучасны перыяд вучоныя факультэта паспяхова распрацоўваюць усе накірункі прававой навукі, прымаюць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і навуковай экспертызе праектаў новых нарматыўных актаў. Скаардынаванымі намаганнямі вучоных-правазнаўцаў распрацоўваюцца праблемы суверэнітэту Беларусі і гарантый яго забеспячэння ў прававой, эканамічнай, сацыяльнай сферах. Вынікі навукова-даследчай работы вучоных факультэта ў апошнія гады ўнушальныя: штогод на факультэце выконваецца 8–9 навуковых тэм, у тым ліку ў рамках дзяржпраграм фундаментальных і прыкладных навуковых даследаванняў; выдаецца 700–1200 (у розныя гады) навуковых работ, з іх 10–20 манаграфій, звыш 50 падручнікаў і навучальных дапаможнікаў, зборнікі навуковых прац, энцыклапедычныя і даведачныя выданні.

Вучоныя-юрысты БДУ ўносяць пасільны ўклад у працэс удасканалення арганізацыі і дзейнасці дзяржаўнага апарату, кадыфікацыю заканадаўства, распрацоўку новых формаў і сродкаў забеспячэння законнасці як неабходнай умовы фарміравання грамадзянскай супольнасці і сацыяльнай прававой дзяржавы. Вынікі навуковых даследаванняў укаранёныя ў праекты нарматыўных прававых актаў, пастановы Вярхоўнага і Вышэйшага Гаспадарчага судоў Рэспублікі Беларусь, тлумачэнні і метадычныя ўказанні Міністэрства юстыцыі і Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь.

Аспірантамі, дактарантамі, супрацоўнікамі факультэта за апошнія пяць гадоў на факультэце абаронена каля 50 кандыдацкіх і 3 доктарскія дысертацыі.

Такім чынам, універсітэцкая юрыдычная навука на Беларусі прайшла вялікі і складаны шлях развіцця, на працягу якога роля і значэнне Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта як вядучага цэнтра вышэйшай юрыдычнай адукацыі і навуковых даследаванняў у галіне права пастаянна ўзрасталі. Беларуская юрыдычная навука адлюстравала ўвесь складаны паэтапны працэс развіцця грамадства і дзяржавы. У апошняе дзесяцігоддзе прававая навука на юрыдычным факультэце істотна змянілася, асабліва ў сувязі з пераадоленнем прававых уяўленняў, несумяшчальных з каштоўнасцямі прававой дзяржавы. Неабходнасць навуковых пошукаў у сферы права існавала заўсёды ў сувязі з тым, што права бесперапынна змяняецца. Асабліва гэта датычыцца сучаснага этапу развіцця, калі навука прызвана фарміраваць адносіны да права як сродку ўдасканалення і гарманізацыі грамадскіх адносін, у тым ліку і сродку абароны неад'емных правоў і свабод чалавека.

***С.А. Балашэнка***